Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

## ПАРАЖЭННЕ — ЗВЫЧАЙНАЕ ЦІ СМЯРДЗЮЧАЕ

У Тан выказаў перакананне, што і Варшаву і Парыж можна прызнаць за адпаведныя месцы для правядзення ўступных перагавораў паміж ЗША і ДРВ. Парыжскі «Ле монд» мяркуе, што Вашынгтон астаткова згадзіўся б на Парыж.

Але Варшава адкінута, а Парыж не знаходзіцца ў спіску 10 мясцовасцей прапанаваных Злучанымі Штатамі. Амерыканская дыпламатыя праводзіць скамплікаваную тульню, каб зацягнуць справу, а Джонсан прабуе гэта апраўдаць, гаворачы, што ўжо навязаны кантакты з Ханой. Аднак катэгарычна гэтаму пярэчыў прадстаўнік в'етнамскага міністэрства замежных спраў.

Перадавы брытанскі эксперт Р. Томсан акрэслівае амерыканскія шанцы ў В'етнаме надта выразна: альтэрнатыва наступная — або выйсці з В'етнама, або далейшая эскалацыя. «Розніца між вывядзеннем а эскалацыяй толькі адна — вывядзенне (войск з В'етнама — АК) абазначае звычайнае паражэнне, далейшая ж эскалацыя вядзе да смярдзючага (stinking) паражэння».

## УПЕРШЫНЮ...

...расісцкі радэзійскі ўрад прызнаўся, што «чорная партызаншчына» з'яўляецца вялікай небяспекай для яго ўлады. Адзін з міністраў заявіў: «Лёс белай Радэзіі вырашаецца ў барацьбе з партызаншчынай».

Улады здзіўляюцца так дасканалым абучэннем і ўзбраеннем партызан. Ад двух месяцаў праводзяць яны паспяховыя аперацыі.

## МАЛАДЫЯ РАДЫКАЛІЗУЮЦЦА

Студэнцкія арганізацыі ў ЗША пракламавалі пратэстацыйную забастоўку супраць вайны ў В'етнаме і супраць расізму. Ахоплівае яна большасць амерыканскіх універсітэтаў. Кульмінацыйным пунктам акцыі будзе вялікая дэманстрацыя ў Нью-Йорку.

Сенсацыйныя вынікі прынесла анкета праведзеная сярод шведскай моладзі. Палова ўдзельнікаў анкеты выказалася супраць капіталістычнаму ладу. амаль палова заявіла, што не мае нічога супраць увядзення камуністычнага ладу. Больш 70% моладзі асуджае амерыканскую агрэсію ва В'етнаме.

Стакгольмскі дзённік, які апавясціў вышэй праведзеныя вынікі, вельмі непакоіцца гэтай радыкалізацыяй моладзі. На думку рэдакцыі ўсяму гэтаму вінаваты Злучаныя Штаты з іх в'етнамскай палітыкай і дыскрымінацыяй неграў, расісцкія рэжымы Радэзіі і Рэспублікі Паўднёвай Афрыкі, а таксама... эканамічныя і навуковыя дасягненні СССР і іншых сацыялістычных краін.

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ...

...несправядліва асуджаных — гэта адна з пастаноў Пленума ЦК Румычскай камуністычнай партыі. А.К.

# БССР

## ПАСЯДЖЭННЕ

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Была абмеркавана дзейнасць савецкіх органаў на Віцебшчыне ў справе паляпшэння матэрыяльна-бытавых і жыллёвых умоў ваенных інвалідаў, сем'яў загінуўшых салдат і партызан.

Затым абмеркавана на тым жа пасяджэнні вынікі праверкі работы мясцовых саветаў на Гродзеншчыне па арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва ў сувязі з 50-годдзем Беларускай Дзяржавы і Кампартыі Беларусі.

## ГОСЦІ

У Мінску пабывала дэлегацыя балгарската парламента на чале з кандыдатам у члены Палітбюро ЦК БКП **Пека Такавым.** Балгарскіх гасцей віталі прадстаўнікі ўлад Беларускай ССР на чале з намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР **І. Клімавым.**

## ВЕЧАР

У актавай зале Беларускага палітэхнічнага інстытута адбыўся вечар польска-савецкай дружбы, прысвечаны 23-яй гадавіне Дагавору аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж СССР і ПНР. У вечары ўдзельнічаў сакратар ЦК КПБ **Д. Філімонаў.**

## БЕЛАРУСКАЙ ССР

Савет Міністраў БССР зацвердзіў склад дэлегацыі Беларускай ССР для ўдзелу ў рабоце прадоўжанай XXII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Кіраўніком дэлегацыі з'яўляецца **А. Гурыновіч,** міністр заграні́чных спраў БССР.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Мінску адбылася тэарэтычная канферэнцыя **«Эканамічная рэформа ў прамысловасці і ўдзел камсамольскіх арганізацый рэспублікі ў яе ажыццяўленні»,** скліканая Цэнтральным Камітэтам камсамола Беларусі.

У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі сакратары камсамольскіх абкомаў, гаркомаў і райкомаў.

## ВЫНІКІ

Апублікавана вынікі сацыялістычнага спаборніцтва за 1967 год. У павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак прадуктаў жывёлагадоўлі ў калгасах, саўгасах лепшых вынікаў дабілася Гродзеншчына, затым Мінская вобласць.

У павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак бульбы лепшыя вынікі мела Брэсцкая вобласць у параўнанні з іншымі абласцямі.

## МАРКСА

Выпушчана ў перакладзе на беларускую мову **«Маніфест Камуністычнай партыі»,** супольны твор **К. Маркса** і **Ф. Энгельса.** Таксама на беларускай мове надрукавана вядомую працу **Карла Маркса «Крытыка Гоцкай праграмы»** і падрыхтавана да друку на беларускай мове чацвёрты том **«Капітала».**

За выпуск гэтых кніжак узялося выдавецтва **«Беларусь»** у сувязі з 150-годдзем з дня нараджэння заснавальніка навуковага камунізма.

## ВАЎКАВЫСКІ

Ваўкавыскі цэментавы завод **«Перамога»** разбудоўваецца і радыкальна павялічвае прадукцыю. (С.Я.)

# ПОЛЬШЧА

## У ГОНАР 1-МАЙСКАГА СВЯТА

На некалькі дзён да 1-майскай урачыстасці працоўны народ у сотнях прадукцыйных забавязанняў вытворчымі намаганнямі падтрымаў свае першамайскія лозунгі: «Польшча і сацыялізм — паняцці аднaзначныя», «Праз узрост прадукцыйнасці і гаспадарнасці — да дабрабыту народа». Напярэдадні свята ў заводах, прадпрыемствах і ўстановах усяе краіны адбыліся 1-майскія ўрачыстасці,

## ЛІСТЫ

Сотні лістаў, якія выяўляюць поўную падтрымку для палітыкі партыі, напльіваюць у адрас Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. «Нашую салідарнасць з палітыкай партыі падтрымліваем павышэннем прадукцыйных намаганняў у гонар з'езда партыі», — пішуць у лісце да Уладзіслава Гамулкі рабочыя Грудзёндза. Навязваючы да сакавіцкіх падзей і да паўсюднага патрабавання ачышчэння радоў партыі і дзяржаўнай адміністрацыі з рэакцыйных і сіяністычных элементаў рабочыя сцвярджаюць: «Мы ўдзячны Цэнтральнаму Камітэту партыі і ўраду, што разлічваюцца з імі кансеквентна і з развагай, справядліва і згодна з жаданнямі рабочага класа».

Катавіцкія чыгуначнікі ў сваім лісце да ЦК партыі сцвярджаюць, што V з'езд адзначаць працай грамадскім чынам на агульную суму 600 тысяч рабочых гадзін.

«Пад кіраўніцтвам партыі сарганізаваныя ў прафесіянальным руху працаўнікі сельскай гаспадаркі патрабуюць у спакоі развіваць дзяржаўныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы», — сцвярджае ў сваёй пастанове Прэзідыум Галоўнага праўлення Прафсаюза сельскагаспадарчых рабочых.

## ВЯСКОВАЯ МОЛАДЗЬ У ШКОЛЕ

У Варшаве адбылася двухдзённая нарада школьнага актыву Саюза сялянскай моладзі (ЗМВ). Нарада ацаніла датагачасную дзейнасць арганізацыі ў сярэдніх школах і накрэсліла далейшыя напрамкі ідэйна-выхаваўчай працы. Да ЗМВ належыць амаль 10 тысяч вучняў. Найбольшай, бо блізка 70-працэнтнай групай з'яўляюцца вучні сельскагаспадарчых школ. Нарада ўказала на шмат недахопаў у грамадскім і палітычным выхаванні школьнай моладзі, як напрыклад, слабасць выхаваўчых момантаў у праграмах навучання, недацэньванне ролі маладзёжнай арганізацыі ў працэсе выхавання, а таксама ўказала на метады іх выпраўлення.

## СУПРАЦЬ ГІТЛЕРАЎСКІХ ЗЛАЧЫНЦАЎ

Пленум Галоўнай камісіі даследвання гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы прыняў пастанову, у якой падкрэслівае неабходнасць рашучага дзеяння ў напрамку пакарання ўсіх дагэтуль не выяўленых гітлераўскіх злачынцаў. Пастанова выяўляе пратэст у сувязі з намерамі ФРГ устрымання праследвання гітлераўскіх злачынцаў з днём 31 снежня 1969 г. (п)

# ВАЯВОДСТВА

## ПЕРШАМАЙСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

Грамадскасць Беласточчыны сустрэла сёлеташні Першамай у атмасферы творчай працы, прадукцыйнымі і грамадскімі чынамі працоўныя нашага ваяводства выявілі сваю прывязанасць да партыі, да яе палітыкі і яе кіраўніцтва. У Беластоку і ў іншых гарадах і пасёлках, у прадпрыемствах і ў школах адбыліся ўрачыстыя першамайскія мітынгі і паходы.

## СЕСІЯ ВРН

29 красавіка адбылася чарговая 16 звычайная сесія Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. Радныя абмеркавалі ажыццяўленне гаспадарчага плана і бюджэта ваяводства за 1967 год, устанавілі заданні для дробнай і рамесніцкай прамысловасці, а затым афармілі арганізацыйныя справы адносна змен на кіраўнічых пасадах у аддзелах Прэзідыума ВРН.

З гэтай нагоды варта адзначыць, што мінулы год для гаспадаркі Беластоцкага ваяводства быў надта ж спрыяльны. Планавыя заданні прамысловасць перавыканала амаль на 2%, што дало ў параўнанні да 1966 года прырост прадукцыі на звыш 12%. Сельская гаспадарка свае планавыя спадзяванні апраўдала з надбаўкай амаль у 6%. У дзяржаўных і спулдзельчых прадпрыемствах працавала на 4,2% больш рабочых, як у 1966 годзе.

## ЧЫН МОЛАДЗІ

Пра першамайскі і даз'ездаўскі чын вясковай моладзі, аб'яднанай у гуртках Саюза вясковай моладзі мы ўжо пісалі. Паведамленні аб ахвярнасці маладых сялян усё яшчэ аднак безупынна паступаюць у Ваяводскае праўленне ЗМВ.

Сёння варта адзначыць, што іншая маладзёжная арганізацыя — Саюз сацыялістычнай моладзі — нядзелю 28 красавіка аб'явіла «Днём чыну» — чыну першамайскага і даз'ездаўскага. На гэты заклік толькі ў горадзе Беластоку прыступіла да грамадскага чыну 10 тысяч дзяўчат і хлопцаў. Парадкавалі яны свае прадпрыемствы, прышкольныя пляцоўкі, спартыўныя аб'екты і вуліцы горада. Аб грамадскіх чынах моладзі паведамляюць таксама з Замброва, Высокага Мазавецка і Бельска. У Бельску маладыя рабочыя садзілі кветкі, абсталёўвалі клумбы, парадкавалі паркавыя дарожкі. Вучні бельскага тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства дапамагалі будаваць інтэрнат для сваёй школы, а вучні беларускага ліцэя працавалі пры пабудове прышкольнай спартыўнай пляцоўкі.

## ДЗЕНЬ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКА

Працаўнікі тэкстыльнай прамысловасці Беласточчыны сустрэлі сваё свята каштоўнымі прадукцыйнымі абавязацельствамі ў гонар V з'езда партыі і Першамая. Вартасць гэтых абавязацельстваў аблічваецца на звыш 125 мільёнаў злотых.

З нагоды «Дня тэкстыльшчыка» адбылося ў Беластоку ўрачыстае пасяджэнне, у якім, між іншым, прыняў удзел I сакратар ВК ПАРП тав. А. Лашэвіч.

вр




**NIEDZIELA, 5. V.**

8.25 Program dnia. 8.30 Reportaż z otwarcia Międzynarodowego Dworca Morskiego w porcie Odessa. 9.00 TV Kurs Rolniczy: „Zbiór siana w gospodarstwach drobnotowarowych". 9.35 „Przypominamy, radzimy". 9.50 „Szaruś z Kroliczego Wzgórza" — film fab. USA. 10.30 PKF. 10.55 Wyścig Kolarski o Puchar MON. 11.45 Dziennik. 12.00 Koncert Orkiestry Reprezentacyjnej Wojska Polskiego. 12.45 Wyścig Kolarski o Puchar MON. 13.05 Film. 13.25 Wyścig Kolarski o Puchar MON. 13.45 „Przygody trzech muszkieterów" — film. 14.25 „W starym kinie". 15.15 „Przemiany". 15.45 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Ula i świat". 16.10 „Wielka gra". 17.00 „Kamera 68". 17,15 Teatr TV: A. Czechow — „Szwedzka zapałka". 18.25 „Ludzie i zdarzenia". 18.40 „Piórkiem i węglem". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Koncert z dedykacją" — program rozrywkowy. 20.40 „Pojedziemy do Deauville" — film fab. franc. 22.00 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 6. V.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.05 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.15 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.30 „Przed Wyścigiem Pokoju". 17.50 „Życie morza" — film TV radz. 18.05 „Eureka". 18.35 „Kino Krótkich Filmów". 18.55 „Wysoki Olimp" — rep. filmowy. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Słowacki — „Zawisza Czarny". ok. 21.20 „O czystą wodę". 21.45 Dziennik.

**WTOREK, 7. V.**

8.55 „Żołnierze" — film dok. radz. 10.00 Dla szkół (kl. I) „Mieszkamy w Polsce". 10.15 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: F. Dürrematt — „Sędzia i jego kat". 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Zbiór zielonek na siano". 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Dwa kółka" (III). 17.20 Dla młodych widzów: „Latający Holender mija Gibraltar". 17.50 „Nie tylko dla pań". 15.10 „Jak się Praga bawiła" — film CSRS. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Po szóstej". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Płock — godzina X" — reportaż z kombinatu petrochemicznego. 20.35 „Giełda piosenki". 21.05 „Żołnierze" — film dok. radz. 22.10 Dziennik.

**SRODA, 8. V.**

9.45 „Ballada o wójtowej Marynie" — film fab. CSRS. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Rame". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Chemia: „Najważniejszy z kwasów". 12.25 Przerwa. 13.25 „Matematyka w szkole". 14.00 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.40 PKF. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.20 „Telekram". 17.30 Wszechnica TV: „Tradycje polskiej nauki i techniki". 18.00 Estrada Poetycka: „Wierszem swym świeć jak gwiazdą". 18.25 „Granica" — film TVP. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Sylwetka kompozytora — Bolesław Woytowicz". 20.35 „Ballada o wójtowej Marynie" — film fab. CSRS. 21.40 „Światowid". 22.10 „Panorama Literacka". 22.30 Dziennik.

**CZWARTEK, 9. V.**

11.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski — L. Kruczkowski: „Kordian i cham". 12.35 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 23.00 Politechnika TV I i II roku. 16.45 „Minuta milczenia" — program poświęcony poległym w walce z faszyzmem (Moskwa). 17.00 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.40 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z I etapu na trasie Berlin — Frankfurt — Berlin. 18.15 Wietnam Północny — film Tele-Aru. 18.30 Koncert Orkiestry Polskiego Radia i Telewizji. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Poligon". 20.35 „Sciśle tajne premiery" — film fab. CSRS. 22.00 „Refleksje". 22.30 Dziennik. 22.45 Magazyn Informacyjny „Wyścig Pokoju".

**PIĄTEK, 10. V.**

9.30 „Co słychać, młody człowieku" — film fab. węg. 10.55 Dla szkół (kl. VII) „W obronie polskości". 11.25 Przerwa. 15.10 Program dnia. 15.15 i 23.20 Politechnika TV I roku. 16.35 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia II etapu na trasie Berlin — Halle. 17.15 Dziennik. 17.20 Olimpiada Wiedzy o Polsce i świecie współczesnym. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 „Recital Donalda Lawrec" (piosenkarz kanadyjski). 18.40 Wszechnica TV „Rozwój kadry naukowej" („Rozmowy o współczesności"). 19.15 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Gorąca linia". 20.40 Teatr TV. N. Hikmet: „Dziwak". ok. 22.10 „10 minut recenzji". 22.20 Reportaż. 22.50 Dziennik. 23.05 Magazyn Informacyjny „Wyścigu Pokoju".

**SOBOTA, 11. V.**

9.25 „Hektar nieba" — film fab. wł. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: „Ruch obrotowy ziemi". 11.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Wykorzystanie energii elektrycznej w rolnictwie". 16.10 Program Tygodnia. 16.40 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia III etapu na trasie Halle — Suhl. 17.30 Dziennik 17.35 Ognisko Harcerskie. 18.25 „Gawędy wilków morskich". 18.40 „Tele-Echo". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Przeraźliwe łoże" — film TVP („Opowieści niezwykłe"). 20.40 Teatr Rozrywki. B. Connors „Roxy". 22.10 Dziennik. 22.25 Magazyn Informacyjny Wyścigu Pokoju i Wiadomości Sportowe. 22.40 „Hektar nieba" — film fab. wł.




**PIĄTEK, 3 maja**

7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Dla przedszkolaków. 8.30 Koncert dla uczniów. 9.05 „Rankiem". Film dla dzieci. 10.35 „Kraj pograniczny". 11.00 „Międzynarodówka". Program muzyczny. 11.30 Wieczór twórczy młodzieży teatralnej z Mohylewa. 12.30 Dla uczniów. 13.00 „Żołnierze pracy". 13.10 „Zbuntowany posterunek". Film. 14.40 Szkatułka Muzyczna. 15.00 Dla dzieci. 15.15 TV barwna. 16.45 Klub Filmowy. 17.45 Sztafeta Nowin. 18.30 Piłka nożna: „Dynamo" (Moskwa) — „Dynamo" (Mińsk). 19.15 Koncert. 20.15 Scena ze spektaklu „Złoty cielak". 20.45 Program rozrywkowy. 21.30 Tylko fakty.

**SOBOTA, 4 maja**

7.00 Gimnastyka. 7.15 Budzik. 7.45 Dziennik. 8.00 Program muzyczny. 8.30 Dla studentów 10.30 Dla uczniów szkół technicznych. 11.30 „Córka Rosji". Spektakl grodzieńskiego teatru. 12.45 „Pierwszy korespondent". 13.05 Olimpiada geograficzna. 14.00 „Syn swego wieku". 14.25 Koncert życzeń. 15.00 TV barwna. 16.50 Piłka nożna: Węgry — ZSRR. 19.00 Klub miłośników piosenki. 20.00 „Dziesiąty krok". Film. 21.35 Tylko fakty.

**NIEDZIELA, 5 maja**

8.05 Dziennik. 8.15 Film animowany dla dzieci. 8.30 „Wszystkie sztandary u nas". 9.00 Dla dzieci. 9.30 Dla uczniów. 14.10 Nowiny. 14.30 Program dnia. 14.35 „Wódz, myśliciel, humanista". 14.55 Uroczysta akademia poświęcona 150 rocznicy urodzin K. Marksa. Po zakończeniu „Siedem dni" i „Rok jak życie". Film. I seria. 20.30 „Naszych spraw kronikarze". 21.15 Tylko fakty.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 113

АЛЕСЬ БАРСКІ

* * *

Зямля і неба веснавыя
нібы зялёна-сіні штандар
павіслі над маім юнацтвам,
ахуталі маё каханне,
і раптам вырас перад намі
горад з распяцціямі антэн
і трунамі каменных блокаў
нас вабіў ён як анаконда,
і рэшткай сіл мы павярнулі
у сінь і сонца свае твары,
і ў лугі свае пабеглі,
ды там прыкрыліся
штандарам,
што у дзяцінстве
з чорным хлебам
дала зямля нам разам з небам.



* * *

Прычасці мяне клёне зялёны
першым лістом сакавітым,
дай мне глыток акавіты,
дазволь мне вясной разгавецца,
глынуць яе цёплы кусочак.
хай стане зялёнаю мроя
як лес пад гарою,
хай зеленню зорацца вочы,
хай сэрца маё зазелянее,
хай сэрца маё пацяплее,
і выпусціць першы лісточак.



## САЛЮТ

Калі апавешчана безагаворачную капітуляцыю фашысцкай Нямеччыны, мы цэлай шайкай пабеглі на луг, расклалі вогнішча, укацілі ў вогнішча снарад і з радасцю «урр-рр-аа»! пахаваліся ў абваленых акопах. Галлё было даволі мокрае, агонь душыўся ў густым дыме і снарад ляжаў бездапаможны і бязрукі, не могучы нас пацешыць. Тады выскачыў Ляры, за ім Піндаль, потым я, а за мною Зяграч. Падыйшлі да снарада, ён ляжаў з гільзаю.

Я паспеў глянуць толькі на гільзу і заснуў. Прысніласся цемната.

Калі прачнуўся і расплюшчыў вочы, каля мяне ляжаў Зяграч з гільзаю ў жывадзе; зайздросна трымаўся за яе абедзвюма рукамі, як за цацку старэйшага брата. У канцы луга хтосьці круціўся бы пастух, якога моцна пабілі за каровы ў шкодзе. Гэта Піндаль.

Я схапіўся на ногі і чуць не зваліўся, страшэнна запякла кульша!

У бальніцы дасталі з кульшы два пяроднія і адзін кутні зуб Ляра. Усё, што па ім засталося.

Маю іх.

Ведаю, што гэта немагчыма, але ад пэўнага часу стараюся забыць пра іх, яны зусім такія самыя, як зубы ў майго падрастаючага сына.

САКРАТ ЯНОВІЧ



І. ЧЫКВІН

* * *

Таня мая
не лёгкае наша жыццё
у калодзеж ўпалі ключы
ні я ад цябе
ні ты ад мяне
не можаш ўцячы.

Замкі паіржавеюць
пад старасць
калі ў жылах
будзе вада
часу пясок
засыпле усё
і нічога ўжо не аддасць.



* * *

з маіх лістаў
ты выйшла
як з залы
каслявым почыркам
пайшла да другога —

я сказы замкнуў
як старыя падвалы
паставіў кропку
стоража нямога.

І ўсё.
Стаіць вякамі памяць гэта.
На сценах памяці
Вісяць твае партрэты.






Гэта сталася пад канец вайны.

На Сакольскай вуліцы, у Вінцка, быў за парабка малады хлопец. Называўся Голка.

Голка круціўся пры салдатах, якія ладзілі мост. Салдаты спілоўвалі старыя слупы — і выпала ім піла пад мост, у ваду. Ніхто не хацеў улазіць у рэчку, усе смяяліся, што кальсоны замочацца.

— Маем хлопца! — крыкнуў адзін. — Гэй, ты! Падыдзі, не бойся.

Голка падыйшоў.

— Я не баюся, — сказаў.

— Маладзец! Маладзец! — крычалі салдаты. — Па пілу пойдзеш?

— Пайду, — сказаў Голка.

— Маладзец. Толькі падкашыся.

Голка ўлез у рэчку, а салдаты паказвалі яму, дзе шукаць.

Выбух грымнуў вобземлю, усе пападалі, дзе стаялі. Міна!

Голка памёр па дарозе ў лазарэт.

ЭДВАРД ЯРАШЭВІЧ

УЛ. ГАЙДУК



* * *

Ёсць дні якіх нельга забыць
І ёсць хвіліны быццам дні
Як хутка ўдаль імчаць гады
Нікому іх не даганіць.

Час бы вада з блакітных рэк
Час бы зара ўжо новы дзень
Вітае сонечны прамень
А чалавека чалавек.

Гарыць святы агонь жыцця
Табе кахання боль аддам
У непраходнай смерці брам
Пачаткам і канцом — зямля.

ВІКТАР ШВЕД

## БЯРОЗАВІК

Помню гэтую хвіліну:
Абламаў калісь галіну
І з галіны у збанок
Крышталічны сок пацёк.
Я чакаў цярпліва, потым
з незвычайнаю ахвотай
Піў салодкі, як мядок,
Мой бярозавік, мой сок.
Пад бярозаю праходзіў
Згорблены стары Валодзя.
На мяне падняўшы зрок
Адазваўся так дзядок:
— Ведай, дарагі сынок,
Не бярозавы п'еш сок.
У збанок сабраў ты слёзы
Акалечанай бярозы.



## ТРАНЗІСТАР



Ягорка фарсісты,
Задзірае нос.
Брат яму транзістар
З горада прывёз.

Скрыначка малая,
А ўнутры сакрэт:
Грае ў ёй, спявае
І гаворыць свет.

Падарунак брата
Хлопец браў з сабой,
Калі пасвіў статак
Летняю парой.

Поўны захаплення
Заўсягды Ягор:
У яго кішэні
І аркестр і хор.

## ІНТЭРВ'Ю ДАЕ



БАГДАН ЖЫРАНІК

(Працяг са стар. 1)

«Нарысу беларускай літаратуры», які выйшаў у свет у тым больш-менш часе).

Гэтакая, хаця несумненна няпоўная знаёмасць беларускай літаратуры дазволіла мне скласці анталогію беларускай паэзіі з уласнымі перакладамі і напісаць да яе шырокі ўступ; сваёй анталогіі я не лічыў як закончаную з увагі на вельмі цяжкі доступ да твораў беларускіх паэтаў у Савецкім Саюзе. Гэты ўступ, пад уплывам пэўных акалічнасцей, быў апублікаваны асобна ў якасці таго ж «Нарысу беларускай літаратуры». Анталогія мая (разам з большасцю рукапісаў) загінула ў час вайны.

Беларускіх аўтараў у міжваенны перыяд я асабіста не ведаў, за выключэннем паэта Гальяша Леўчыка (Ляўковіча), сакратара варшаўскага Беларускага Камітэта; толькі ў апошнія гады пазнаёміўся я з некалькімі маладымі беларускімі паэтамі ў ПНР, перш за ўсё, з Алесем Барскім (Баршчэўскім) і Віктарам Шведам, а потым з Максімам Танкам, які прыбыў у Польшчу (ў 1964 г.; гэтае знаёмства было надта кароткае, некалькіслоўнае (як заўсёды, перашкаджалі мне цяжкасці з вымаўленнем).

Найчасцей і найбольш ахвотна перакладаю паэзію Янкі Купалы і Якуба Коласа, а з сучасных — Максіма Танка; вельмі ахвотна, хаця нячаста перакладаў я вершы Максіма Багдановіча і Змітрака Бядулі, а з сучасных — Пімена Панчанку. Любіў я таксама перакладаць Францішка Багушэвіча і Цётку (Кейрысіху), асабліва ў пачатковым перыядзе маёй перакладчыцкай працы ў галіне беларускай паэзіі.

Беларусам, пражываючым у Польшчы, зычу ўсякіх поспехаў і якнайпрыгажэйшых дасягненняў, перш за ўсё, у галіне духоўнай культуры; дасягненняў, якія ўзбагацяць духоўнае жыццё польскіх беларусаў, а тым самым і супольнай нам Айчыны.

## ПАСЛЯ ВОДПУСКУ

Вярнуліся ў апошні дзень водпуску. Ён сеў на падлогу і распакоўваў чамаданы з брудным адзеннем, пасудаю, туалетавымі прыборамі. Яна пайшла ў кухню напарыць гарбаты.

У той вечар пакладіся спаць вельмі рана і доўга расказвалі сабе.

У шэсць гадзін раніцы яна разбудзіла яго і сказала:

— Уставай, сплюх мой мілы. Час на работу.

За акном буяніў горад.

Ён прыўсніўся на яе да сябе і заплакаў.

— Каханая мая... — яе валасы яшчэ пахлі сонцам.

Яна падумала, што яму сніўся страшны сон; падумала таксама, што ён моцна кахае яе.

Але гэта была няпраўда.

Яму снілася тое месца на возеры Зэльва, дзе вада сіне-сіняя, а далей прастор цішыні, зеляніны і святла.

САКРАТ ЯНОВІЧ



 

Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

### НАВАЛЬНІЦА

Надвор'е на возеры няўстойлівае. Яно часта змяняецца.

То цёпла, то холадна. То свеціць сонца, то пахмурна. То ціха, то рэзкі вецер.

І ў адпаведнасці з надвор'ем, гэтак жа часта змяняе свой колер і возера.

То яно блакітнае, то цёмна-сіняе, то зялёнае, то шэрае, сярдзітае і непрыгляднае.

Сёння з раніцы свяціла сонца. Усё, здавалася, прадказвала добрую, устойлівую пагоду да самага вечара, і я вырашыў паплыць да вялікага абрыву за Сцепянёвым.

Байдарка ціха пагойсваецца на блакітнай спакойнай вадзе.

Раптам у ясным небе з'явіліся белыя воблачкі. Іх становіцца ўсё больш.

Сярод белых воблачкаў можна цяпер заўважыць і цёмна-шэрыя.

Сонца схавалася.

Дзесьці ўдалечыні пачуліся глухія раскаты грому. Неўзабаве яны наблізіліся, зрабіліся больш гучнымі і працяглымі.

Птушкі недзе пахаваліся. Няма над возерам ні ластавак, ні чаек.

Аб тым, каб плыць куды-небудзь, не варта і думаць. Я выцягнуў байдарку* на бераг і схаваў яе ў пуні.

Неба тым часам зусім пацямнела, завалаклося цяжкімі і змрочнымі хмарамі. Яны праглынулі апошні невялікі прасвет і цяпер непадзельна пануюць над возерам.

У паветры павеяў аднекуль лёгкі струменьчык холаду.

Дрэвы зашамацелі.

Наляцеў нечакана шалёны парыў ветру.

Сосны пахіснуліся і застагналі. Па зямлі імкліва пакаціліся абганяючы адна адну, сасновыя шышкі.

Суціхнуўшы на хвіліну, вецер накідваецца на дрэва з новай сілай, яшчэ больш злосна і непрымірыма.

Пайшоў дождж, спачатку быццам неахвотна, невялікі і рэдкі, асобнымі кроплямі. Потым усё часцей і мацней.

І раптам страшэнны ўдар скалануў неба і зямлю.

Змрок згусціўся.

Цёмнае неба над возерам прарэзала ад краю да краю доўгая і нароўная агністая лінія маланкі. За ёю бліснула другая, трэцяя.

Гром грымеў амаль безупынна, не змаўкаючы ні на хвіліну.

Дождж перайшоў у лівень.

Нядаўна яшчэ лагоднае, блакітнае возера зрабілася змрочным, цёмна-шызым, пакрылася высокімі, сярдзітымі хвалямі, якія бясконцымі радамі, з шумам і грукатам кідалі і кідалі на бераг свае белыя пеністыя грабяні.

Шумелі патокі вады, якія ліліся цяпер з неба суцэльнай заслонай. Шумеў лес, шумела возера. Хісталіся, гнуліся і скрыпелі сосны.

Парывы ветру, адзін аднаго мацней, зрывалі лісце з кустоў і дрэў, то ярасна падкідаючы яго высока ўгору, то гонячы між ствалоў па мокрай зямлі. Уся дарога берага была ўсыпана зламаным голлем.

Над хвалямі змагалася з ветрам адзінокая чайка, але вось і яна знікла кудысьці.

З жудасным трэскам і грукатам грымнула на пясок вялікая разгалістая саска, што расла на самым беразе. Навальніца вырвала яе з карэннем, і вось ужо цераз вяршаліну паверженага старога дрэва перакочваюцца хвалі.

«Якраз у такую буру з навальніцай і ловяць вугроў, — падумаў я, — ды не днём, а ноччу. Нялёгкая гэта справа!»

Тым часам ярасць ветру пачала слабець.

Праз гадзіну вецер суціх, гром змоўк, маланкі перасталі разрываць цёмнае неба.

З правага боку выступілі з-пад шэрай заслоны дажджу абрысы касы. Потым заслона перамясцілася на сярэдзіну возера, пасунулася ўлева. І адразу сталі відаць узгоркі за рыбгасам.

Цяпер і сярэдзіна возера вызвалілася ад заслоны, і вада зазіхацела серабрыстай рабізной.

Выглянула сонца, неба ачысцілася ад хмар.

Над возерам перакінула сваё каляровае каромысла* радуга, але вясёлы, бліскучы грыбны дождж усё яшчэ ішоў.

Нарэшце і ён спыніўся.

Возера зноў зрабілася ціхім і спакойным, а вада чыстай і празрыстай.

Пацяплела, хоць у паветры ўсё яшчэ крыху адчуваўся халадок. Улагодненыя берагі дыхалі свежасцю.

Вечар непрыкметна перайшоў у ноч.

На цёмна-сінім, амаль чорным небе ярка свяціў поўны месяц. На такой жа цёмна-сіняй, як і неба, вадзе струменіла серабрыстая дарожка халоднага святла.

Над возерам панавала цішыня.

**Віталі Вольскі**

Урывак з кнігі «Чайкі над Нараччу»

1. Звярніце ўвагу, як стварае пісьменнік апісанне навальніцы, як падбірае адпаведныя словы, каб зрабіць малюнак найбольш яркім і вобразным.
2. Вывучыце любы ўрывак прозы напамяць.

**Слоўнік**

Байдарка — лёгкая спартыўная лодка з закрытай палубай і двухлопасным вяслом.

Каромысла — драўляная дуга з выемкамі або кручкамі на канцах для ноські вёдзер. Тут ужыта ў пераносным сэнсе.

## ВЕСНАВЫ ФОТАРЭПАРТАЖ



Вясна прыносіць з сабою новыя абавязкі для сялян. Жыхары Паўднёвага Вострава (Сакольскі павет) узяліся наладжваць тое, што ад мінулай вясны і за зіму прыпсавалася, што патрабуе рамонту. А гэта ўсё дзеля таго, каб прыгажэй было на сваіх панадворках і каля хаты. У фотарэпартажы паказваем людзей гэтай вёскі, паказваем іх веснавыя будні.

**Антон Шымановіч.** З'яўляецца найважнейшым чалавекам у вёсцы, а гэта таму, што ён і солтыс, і адначасова радны ГРН у Гуранах. Карыстаецца ў аднавяскоўцаў пашанай за сваю беспасрэднасць, ветлівасць і справядлівасць.

За зіму ў некалькіх месцах выкрушылася даxоўка. На месца папсутых даховак Антон Шымановіч закладае новыя.

**Ян Санько.** Паважаны чалавек у вёсцы. Многа гадоў быў солтысам перад вайной. Гэтую функцыю выконваў таксама і ў першыя гады народнай улады.

Наводзіць веснавыя парадкі на сваім панадворку. Непатрэбныя колы і жэрдкі можна папілаваць на дровы. Пры гэтай працы прымяняе ён вельмі выгодны спосаб. Да казлоў прывязаў жалеза і дрот, на якім яно вісіць. Гэта так прыціскае дрэва, што нават не заварушыцца ў час пілавання.



**Аляксандр Врублеўскі.** У яго добрыя забудаванні. Раней у гэтым месцы было пуста. Сваімі рукамі ўсё ён тут зрабіў, усё пабудаваў. Жыве на гэтым месцы ўжо больш 20-ці год.

Бываюць такія людзі, што за 20 год рук да нічога не прылажылі і пражылі на ўсім бацькоўскім. Часам крыўдзяцца нават, што бацькава страха працякае.

Аляксандр Врублеўскі за зіму навазіў з лесу шмат дроў. Як пацяплела, папілаваў іх і складае ў лашты.

Тэкст і фота: **Міхась Хмялеўскі**

**З Дуброўшчыны**

### КІНО

У Ружаным Стоку ёсць сваё пастаяннае кіно. Тут грамадскім чынам была дабудаваная кабіна і ўжо некалькі год ёсць нават не звычайнае кіно, а панарамічнае. Служыць яно і для тэхнікума і для жыхароў Ружанага Стоку, Ячна, Грэбянёў, Герасімаўцаў, Стоцка і Градзішчан.

### МАСТАВЫЯ

Што варта вёска, у якой на вуліцы можна загразнуць. Зімою, у непагадзь і дажджлівай восенню было гэтак у Грэбянях і Герасімаўцах. І вось у гэтых вёсках упершыню ў іх гісторыі на вуліцах уложаны брук.

Намаганнямі ГРН была пабудавана жвіравая дарога ад Ружанага Стоку да мясцовага чыгуначнага прыпынка.

(мх)



**ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ**

# КАРЛ МАРКС

Карл Маркс нарадзіўся 5 мая 1818 года ў невялікім нямецкім горадзе Трыры, Рэйнскай вобласці ў сям'і вядомага адваката. Юнак выхоўваўся ў духу ідэй французскіх і нямецкіх асветнікаў, у атмасферы свабодалюбства і нянавісці да самавольства і насілля.

Пасля заканчэння гімназіі Маркс паступіў на юрыдычны факультэт Бонскага універсітэта, затым пераеўся ў Берлін. Тут ён побач з юрыспрудэнцыяй глыбока вывучаў таксама гісторыю і філасофію. У 1841 годзе Маркс абараніў доктарскую дысертацыю па філасофіі. Адкрывалася бліскучая кар'ера прафесара або юрыста. Але яму былі ненавісныя прускія рэакцыйныя парадкі і ён уступіў у барацьбу супраць абсалютызму, цемрашальства і сацыяльнай няроўнасці. У кастрычніку 1842 года Маркс стаў галоўным рэдактарам апазіцыйнай «Рэйнскай газеты», якая атрымала дзякуючы яго дзейнасці на гэтай пасадзе ярка выражаны рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак.

У той час пралетарыят ужо даволі рашуча заяўляў аб сваіх патрабаваннях. Паўстанні ліёнскіх рабочых і сілезскіх ткачоў, шматлікія стачкі, узнікненне першых прафесіянальных і палітычных арганізацый рабочага класа — усё сведчыла аб глыбокіх унутраных супярэчнасцях капіталізму.

Чым больш ясней рабілася эксплуататарская сутнасць гэтага ладу, тым больш настойліва лепшыя людзі многіх пакаленняў шукалі шляхі збавення ад галечы і эксплуатацыі. Аднак першыя сацыялістычныя тэорыі заставаліся ўтопіяй: у іх не хапала правільнага навуковага тлумачэння аб'ектыўных законаў развіцця грамадства. Толькі Маркс ператварыў сацыялізм з утопіі ў навуку. Для гэтага неабходна было абаперціся на велізарную суму ведаў, на вышэйшыя дасягненні тэорыі і шматвяковы вопыт практычнай барацьбы народных мас супраць прыгнечання і эксплуатацыі. Важнай вяхой у гэтым працэсе асваення дасягненняў чалавечай думкі і закладвання асноў светапогляду былі лета і восень 1843 года ў Крэйцнаху, калі Маркс пасля забароны прускім урадам «Рэйнскай газеты» пайшоў, паводле яго ўласнага выразу, у «навучальны пакой».

Тут, у гэтым маленькім рэйнскім горадзе ў чэрвені 1843 года Маркс назаўсёды злучыў свой лёс з сяброўкай дзяцінства і юнацтва Жэнні фон Вестфалер, якая выдзялялася рэдкай прыгажосцю і вялікім розумам. Шлюбу папярэднічалі тайныя заручыны маладых людзей, якія адбыліся яшчэ ў 1836 годзе. Арыстакратка «па крыві», «царыца баляў» у Трыры, дачка ўрадавага саветніка, Жэнні была адданым другам і вернай памочніцай Маркса. Яна шчыра падзяляла яго погляды і, ідучы яго дарогай, да канца дзён сваіх самаадданa змагалася за справу рабочага класа.

Свой пераход на пазіцыі матэрыялізму Маркс канчаткова завяршыў у 1843—1844 гадах у Парыжы, куды ён прыехаў позняй восенню 1843 года, каб выдаваць тут часопіс «Нямецка-французскі штотыднёвік».

У Парыжы Карл Маркс сустрэўся з Фрыдрыхам Энгельсам. У яго асобе Маркс займеў таленавіцейшага аднадумца і вернага саратніка, поплеч з якім ён прайшоў увесь далейшы жыццёвы шлях.

Актыўная дзейнасць Маркса ў Парыжы, яго шырокія сувязі з рабочымі арганізацыямі, высокі аўтарытэт у асяроддзі рэвалюцыйнай эміграцыі выклікалі трывогу ў рэакцыйных колах. Французскія ўлады, каб дагадзіць прускаму ўраду, у пачатку лютага 1845 года выслалі Маркса з Парыжа. З жонкай і маленькай дачкой ён перабраўся ў Брусель.

Маркс і Энгельс няспынна шукалі шляхі ўздзеяння на рабочыя арганізацыі, падтрымлівалі перапіску з перадавымі рабочымі і прадстаўнікамі рэвалюцыйнай інтэлігенцыі Англіі, Францыі, Германіі, Бельгіі, ЗША.

У 1847 годзе пры кіруючым удзеле Маркса і Энгельса быў створаны Саюз камуністаў, першая міжнародная пралетарская арганізацыя, якая абвясціла сваім ідэйным сцягам навуковы камунізм. «Мэта Саюза, — адзначалася ў яго



 

ГАСПАДАРСКІЯ РАЗМОВЫ

# НА ПЯСКУ



Калі папрасіў я грамадскага агранома ў Мілейчыцах, Антона Матоху, каб падказаў мне нейкага добрага гаспадара, ён без даўжэйшых роздумаў заявіў:

— Давайце пойдзем да Андрэя Максімюка.

Пайшлі.

— Дык скажыце, што найлепш вам аплочваецца ў вашай гаспадарцы? — пытаюся гаспадара.

— Перш за ўсё трэба вам ведаць, што гаспадарка мая незавідная. Зямлі нібыта многа: 5 гектараў ворнай і 3,5 га сенажаці. Але зямля дрэнная. IV-га класа маю ўсяго ледзь 0,80 га, усё іншае — гэта V-ты і VI-ты класы. Трэба добра пакруціць мазгамі, каб знайсці месца на агародніну, на цукровыя буракі, на пшаніцу, на бульбу. Толькі над аўсом і жытам не мушу задумоўвацца.

— Дык які ў вас ураджай на такой сапраўды незавіднай зямлі.

— Жыта будзе нейкіх 15—17 цэнтнераў з гектара, бульбы — каля 200, а пшаніцы я сею мала, толькі, каб сабе на булачкі хапіла, у мінулым годзе, для прыкладу, было яе 25 араў, намалаціў 4 цэнтнеры.

— Гэта ж зусім добры ўраджай. Як вы ўгнойваеце свае пяскі?

— Перш за ўсё жывёльным гноем. Яго ў мяне багата.

Аграном хутка падлічыў, што на адзін гектар ворыва Андрэй Максімюк вывозіць 250—300 цэнтнераў гною.

— Сапраўды многа, — кажа аграном, — але не зашкодзіла б — дабаўляе, — падсыпаць яшчэ фосфарнага і патасовага штучнага ўгнаення.

— Пад збожжа я даю да 2-х цэнтнераў салетшаку, — паясняе гаспадар. — Аднак штучныя ўгнаенні я перш за ўсё прымяняю на сенажаць.

Ізноў аграном памог мне падлічыць, што ў Андрэя Максімюка выпадае па 138 кг чыстага рэчыва азоту, фосфаду і калію. Нічога тады дзіўнага, што з двух пакосаў накошвае ён звыш 70 цэнтнераў сена.

— У мяне 5 штук кароў, — паясняе гаспадар. — Яны патрабуюць добрага корму. Таму апрача сена кожны год я нарыхтоўваю сілас, які дае 7 тон пашы. Трэба будзе абсталяваць яшчэ адзін сілас. Тады апрача лісця буракоў і бруквы буду сіласаваць траву з трэцяга пакосу. Дазволіць мне гэта павялічыць колькасць быдла. Яно ж дае мне асноўны даход. Ад кожнай каровы жонка надойвае ў дзень па 13—14 літраў малака, а летам яшчэ больш. Затым я пастаянна кантрактую цялята. Адну карову маю ад быка пароды «джэрсей». Гэта добрая карова. Дае тлустае малако — у сярэднім па 4,3% тлушчу. Дрэнныя каровы няма што трымаць.

— А як вы ўладжваецеся з палявымі работамі?

— З гэтым у мяне цяжкавата. Мала маю рабочай сілы. На шчасце выручаюць нас «кулковыя» машыны. Траву і ўсё збожжа кашу ўласнай касілкай.

— Нічога вы не гаварылі пра гадоўлю свіней.

— Бо гадую іх толькі, каб хапіла на ўласныя патрэбы. На мой мужыцкі розум у гаспадарцы, каб яна неяк сябе апраўдала, неабходная канцэнтрацыя. Я сабе выбраў гадоўлю быдла і гэтаму падпарадкоўваю ўсё іншае. Ужо зараз каровы даюць мне толькі за малако нейкіх 20 тысяч злотых у год чыстага даходу.

Да ўсяго гэтага дабавім яшчэ, што Андрэя Максімюка лічаць у Мілейчыцах не толькі добрым гаспадаром, але і актыўным грамадскім дзеячам.

**М. Нурэцкі**
фота аўтара




**(Працяг са стар. 1)**

гумар Сяргея Масальската, яго ўменне быць у такіх ролях, захапіў прысутных. Такі поспех у сваёй вёсцы заахвоціў аматараў да выезду са сваёй мастацкай часткай у суседнія вёскі. Усюды іх прадстаўленні вельмі цёпла, вельмі добра ўспрыймаліся.

Але гэта была ацэнка вясковага гледача. А як мы выглядаем з мастацкім узроўнем у параўнанні да тых калектываў, якія маюць ужо за сабою вялікі вопыт і практыку, якія працуюць пад вокам і кіраўніцтвам настаўнікаў? — задаваў неаднойчы сабе пытанне Сяргей Масальскі. І вось тут надарылася аказія змерыцца сіламі з іншымі калектывамі і пабачыць самадзейных артыстаў на павятовай сцэне. Гайнаўскі аддзел Беларускага таварыства ў сакавіку арганізаваў агляд драмгурткоў з беларускім рэпертуарам. Яны занялі там першае месца. Сведчыць гэта аб тым, што Сяргей Масальскі дасканала справіўся з усімі заданнямі мастацкага кіраўніка.

Вось адзін з ціхіх дзеячоў культуры, які нават у лік гэтых дзеячоў не асмельваецца сябе аднесці. Штопраўда, у ГРН у Кляшчэлях ён уваходзіць у склад камісіі культуры.

З грамадскай дзейнасці трэба падкрэсліць яшчэ і тое, што Сяргей Масальскі з'яўляецца таксама старшынёй ЗМВ у сваёй вёсцы. А гэтая арганізацыя цесна супрацоўнічае з гуртком БГКТ.

**М. Хмялеўскі**
фота аўтара

Нядаўна «Ніва» пісала, што ў Беластоку ў тэатры імя Вянгеркі адбыўся **Першы ваяводскі Злёт маладых работнікаў ПГР.**

500 маладых удзельнікаў злёту перш за ўсё маніфеставала сваю адданасць сацыялізму і партыі. Маладыя работнікі ПРГ выступілі з заклікам да ўсіх маладых людзей у ПГР-ах, да ўсіх членаў ЗМВ у краіне, каб узорам іх прыступілі да перадз'ездаўскага чыну абавязацельстваў.

Маладыя людзі са злётаўскай трыбуны гаварылі аб тым, як жывуць, як уключаюцца ў жыццё і працу ПГР-аў. Марыя Шыманка з ПГР Норы ў Алецкім павеце заявіла, што моладзь і рабочыя ПГР-аў Алецкага інспектарата прынялі абавязацельствы: павысіць колькасць чатырох збожжавых з 21 цэнтнера да 27 цэнтнераў, а сена з

# ГАСПАДАРЫ БУДУЧЫНІ

планаваных 40 да 50 цэнтнераў з гектара. Прадстаўнік ПГО Ігнаткі, каля Беластока, расказала аб цяжкасцях у сваім гаспадарстве і аб тым, што моладзь згуртаваная ў ЗМВ арганізуе культурна-асветнае жыццё, напрыклад, аглядаючы і дыскутуючы над тэлевізійнымі п'есамі, арганізуючы вечарыны. Вельмі многа рабочых з агародніцкага гаспадарства ў Ігнатках вучыцца завочна ў агародніцкім тэхнікуме ў Сахачэве. Гурток ЗМВ у Лапаткове Беластоцкага павета прыняў абавязацельства на суму 200 тыс. зл.

Да маладых удзельнікаў злёту выступіў з прамовай дырэктар аб'яднання ПГР тав. Данцэвіч. Пазнаёміў ён са спецыфікай працы беластоцкіх ПГР-аў, іх будучыняй і развіццём. Характэрным, напрыклад, з'яўляецца тое, што ПГР-ы ў Беластоцкім ваяводстве займаюць толькі 5% агулу зямлі, што 42 працэнты карыстальных зямель — гэта лугі і сенажаці, што каля 40 прац. з іх не меліяраваныя. Вельмі важным ёсць і тое, што наогул зямля беластоцкіх ПГР-аў слабая — 72—80 прац. гэта IV і V класы зямлі. Неспрыяльным з'яўляецца таксама клімат, які прычыняецца да таго, што перыяд вегетацыі тут карацейшы на 14—20 дзён, чым у сярэднім у краіне.

— Аб'ектыўнай цяжкасцю нашых ПГР-аў, — гаварыў дырэктар Данцэвіч, — з'яўляецца таксама малая колькасць рабочых на 100 гектараў зямлі. І так, прадбачваецца на 100 гектараў 8—10 людзей, а ў Беластоцкім ёсць гаспадаркі, дзе выпадае толькі па 3 асобы.

Істотнай справай у будучыні беластоцкіх ПГР-аў — паднесці ўзровень кваліфікацыі рабочых у ПГР пры дапамозе рознага тыпу курсаў і школ. Важнай справай будзе ўплыў кваліфікацыі на заработкі. Аднак асноўную ролю ў працэсе павышэння кваліфікацыі ПГРаўскіх калектываў адыграе моладзь.

Маладыя работнікі ПГР наведалі фабрыкі і прадпрыемствы Беластока, пабывалі на оперы і танцавальнай вечарыне ў адной з беластоцкіх фабрык.

А. К.

# Прачытай, падумай, выбяры!

ZASADNICZE SZKOŁY ZAWODOWE DLA PRACUJĄCYCH PRZYZAKŁADOWE

Гэта школы для абсальвентаў пачатковых школ ва ўзросце 15 да 18 год, якіх перад навукай данае прадпрыемства прыймае на працу. Навука тут працягваецца 2 або 3 гады ў залежнасці ад выбранай прафесіі. Практычна навука адбываецца ў прадпрыемствах па 3 дні ў тыдні. За практыку, напрыклад, на будове вучань атрымоўвае зарплату.

**Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 40, Z.S. Budowlana Białostockiego Przedsiębiorstwa Budownictwa Miejskiego** — internat (elektromonter, monter wewnętrznych instalacji budowlanych, murarz, mechanik - kierowca pojazdów samochodowych, mechanik maszyn budowlanych, betoniarz - zbrojarz, cieśla); **ul. Elektryczna 3, Z.S. Zawodowa Zakładu Energetycznego „Białystok"** (elektromonter); **Sz. Zółtkowska 39, Z.S. Zawodowa Wojewódzkiego Przedsiębiorstwa Przemysłu Mięsnego** (przetwórstwo mięsa).

**Białystok - Fasty, ul. Przędzalniana 8, Z.S. Włókiennicza Białostockich Zakładów Przemysłu Bawełnianego „Fasty"** (tkacz bawełny, przędzarz bawełny).

**Czarna Białostocka, Osiedle ZOR pow. Białystok. Z.S. Zawodowa Wytwórni Wyrobów Precyzyjnych** (tokarz, mechanik maszyn i urządzeń przemysłowych).

**Zambrów, Aleja Wojska Polskiego 35, Z.S. Włókiennicza Zambrowskich Zakładów Przemysłu Bawełnianego** (przędzarz bawełny, tkacz).

LICEA PEDAGOGICZNE DLA WYCHOWAWCZYŃ PRZEDSZKOLI

Прыймаецца сюды кандыдаткі ва ўзросце 15—17 год, якія закончылі пачатковую школу. Уступны экзамен — з польскай мовы і матэматыкі. Апрача таго кандыдаткі павінны мець добры музычны слых, які б даваў магчымасць карыстання з навукі спеваў і ігры на музычных інструментах.

**Augustów, ul. 29 listopada 19, Liceum Pedagogiczne dla Wychowawczyń Przedszkoli** — internat (wychowawca w przedszkolu).

**Białystok, ul. Złota 4, Liceum Pedagogiczne dla Wychowawczyń Przedszkoli** — internat (wychowawca w przedszkolu).

LICEA MEDYCZNE PIELĘGNIARSTWA

Навука ў ліцэях медсясцёр працягваецца 5 год. Уступны экзамен з польскай мовы і матэматыкі. Практычная навука адбываецца ў бальніцах і іншых пунктах аховы здароўя. Абсальвенты атрымліваюць атэстат сталасці і прафесіянальныя правы.

**Białystok, ul. Warszawska 29, Liceum Medyczne Pielęgniarstwa** — internat (ochrona zdrowia i pielęgnowanie chorych).

**Bielsk - Podlaski, ul. Kleszczelowska 3, Liceum Medyczne Pielęgniarstwa** — internat (ochrona zdrowia i pielęgnowanie chorych).

**Łomża, ul. 22 Lipca 20, Liceum Medyczne Pielęgniarstwa** — internat (ochrona zdrowia i pielęgnowanie chorych).

(а.к.)

# ВЕРАСЕНЬ 1939 НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Такі загаловак мае манаграфія **Зыгмунта Каштылы,** якая паказалася на кніжных паліцах.

Паўстала гэтая кніжка, як аўтар на пачатку кажа, «у выніку доследаў Камісіі вайсковай гісторыі Беластоцкага навуковага таварыства».

Датычыць яна, як лёгка здагадацца, сітуацыі на Беласточчыне напярэдадні вайны і ў яе пачатку. На аснове дакyментаў і расказаў навочных сведкаў рысуе аўтар карціну Беласточчыны з боку вайсковай падрыхтоўкі і барацьбы. Многа месца займае гісторыя Самастойнай групы аперацыйнай (SGO) «Нараў» пад камандваннем генерала брыгады **Чэслава Млота-Фіялкоўскага.** Апісанне многіх аперацый пестрыцца назвамі нашых мясцовасцей: Белавежа, Кляшчэлі, Чаромуха, Міхалова і многа іншых.

Кніжка выдана вельмі прыгожа, у цвёрдых вокладках, (а паколькі традыцыя збройнай барацьбы на Беласточчыне з гітлераўскім акупантам багатая і жывая) напэўна зацікавіць чытачоў. Варта заглянуць, што кажуць дакументы і людзі пра першыя дні і першых змагароў у гэтай барацьбе, якая працягвалася і потым, у іншай ужо форме.

Zygmunt Kosztyła.
Wrzesień 1939 roku na Białostocczyźnie.
Prace Białostockiego Towarzystwa Naukowego Nr 10.
Białystok 1967
Druk PWN Warszawa 1967.
Nakład 2500 cena 42 zł.

(вл)

статуце, — з'яўляецца: звяржэнне буржуазіі, панаванне пралетарыяту, знішчэнне старога, заснаванага на антаганізме класаў буржуазнага грамадства і заснаванне новага грамадства».

Па даручэнню другога кангрэса Саюза Маркс і Энгельс напісалі праграму Саюза — «Маніфест Камуністычнай партыі» (1848 г.), у якім дадзен глыбокі па зместу і бліскучы па форме малюнак развіцця супярэчнасцей капіталістычнага грамадства, паказана немінучасць перамогі пралетарыяту, падкрэслена рашаючае значэнне пралетарскай партыі як арганізатара і правадыра рабочага класа. Вялікія прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму «Маніфест Камуністычнай партыі» выказаў у славутым закліку: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»

Сваю першую гістарычную праверку новая тэорыя прайшла ў перыяд навальніц і бур еўрапейскіх рэвалюцый 1848—1849 гадоў. У гэтыя дні ўпершыню ў поўнай меры праявіліся і асабістыя якасці Маркса як вялікага майстра рэвалюцыйнай барацьбы.

Вестка аб падзенні манархіі ў Францыі ў лютым 1848 года застала Маркса ў Бруселі. Высланы з Бельгіі ў 24 гадзіны як палітычна ненадзейны іншаземец, ён па запрашэнню Часовага французскага ўрада накіраваўся ў Парыж. Але ўсёй душой ён быў у Германіі, дзе пад уплывам падзей у Францыі пачаліся масавыя хваляванні, а 18 сакавіка 1848 года ў сталіцы Прусіі Берліне адбылося паўстанне. Кароль быў вымушаны абяцаць канстытуцыю.

Маркс вяртаецца на радзіму і з 1 чэрвеня 1848 года ў Кёльне пачынае выдаваць разам з Энгельсам славутую «Новую Рэйнскую газету».

З'яўляючыся адным з прызнаных кіраўнікоў дэмакратычнага руху ў Германіі, Маркс удзельнічаў у розных яго з'ездах. У лістападзе 1848 года ён быў выбраны ў Кёльне ў Народны камітэт, заклікаў арганізаваць і ўзброіць масы для адпору контррэвалюцыі.

Практыка рэвалюцыйнай барацьбы з'явілася добрай школай палітычнага выхавання нямецкага пралетарыяту. Маркс і яго прыхільнікі лічылі, што ёсць умовы для стварэння самастойнай рабочай партыі. Аднак паражэнне рэвалюцыі 1848—1849 гадоў перашкодзіла ажыццяўленню гэтых планаў. 19 мая 1849 года выйшаў апошні нумар «Новай Рэйнскай газеты».

У першых чыслах чэрвеня Маркс зноў выехаў у Парыж, а неўзабаве з сям'ёй накіраваўся ў Англію. Ён не думаў тады, што прыйдзецца амаль бязвыезна пражыць у гэтай краіне да самай смерці.

Адразу ж пасля прыезду ў Лондан Маркс заняўся адраджэннем легальнай і нелегальнай дзейнасці пралетарскіх арганізацый.

Умовы жыцця Маркса і яго сям'і ў першыя гады лонданскай эміграцыі быці надзвычай цяжкія. Пастаянныя трывогі, сістэматычнае недаяданне, сырое і цеснае памяшканне ў самым бедным раёне Лондана — усё гэта падрывала здароўе. Асабліва пакутавалі дзеці. З семярых дзяцей выжылі толькі тры дачкі.

Каб матэрыяльна дапамагчы сям'і Маркса, Энгельс паехаў у Манчэстэр, дзе стаў служачым, а затым і кампаньёнам гандлёвай фірмы. На працягу 20 гадоў яны жылі ў розных гарадах, рэдка сустракаючыся, але амаль штодзённа абменьваліся пісьмамі. Перапіска двух заснавальнікаў марксізма за гэтыя гады налічвае больш чым паўтары тысячы пісьмаў. Яна з'яўляецца жывым летапісам бяспрыкладнага творчага саюза двух найвялікшых розумаў, іх сумеснай працы ў галіне рэвалюцыйнай тэорыі і практыкі.

У Лондане, выкарыстоўваючы багацейшыя фонды бібліятэкі Брытанскага музея, Маркс выканаў асноўную частку сваіх эканамічных даследванняў.

Цяжкім ударам для Маркса была смерць яго жонкі (2 снежня 1881 г.). Да гэтага часу здароўе Маркса значна пагоршылася. Неўзабаве Маркса дасягнуў новы ўдар — памерла яго старшая дачка Жэнні. 14 сакавіка 1883 г. Маркс, перайшоўшы са спальні ў кабінет, сеў у сваё крэсла і заснуў навекі.




# Апошняя стаўка

**Апошняя стаўка Гітлера... Будаўніцтва гэтага звышсакрэтнага аб'екта, так званай «Альпійскай крэпасці», працягвалася поўным ходам нават тады, калі савецкія войскі ўшчыльную падышлі да Берліна. Сюды меркавалася ў самы крытычны момант перавесці галоўныя штабы ўсіх родаў войск фашысцкай Германіі. У выпадку паражэння гітлераўскага рэйха «Альпійскую крэпасць» збіраліся выкарыстаць як галоўную базу для вядзення падрыўной дзейнасці.**

**Сёння напярэдадні Дня Перамогі мы публікуем матэрыял, які прыўзнімае заслону над змрочнай тайнай «Альпійскай крэпасці».**

Ёсць месцы на зямлі, лёс якіх становіцца здабыткам гісторыі. Гэта могуць быць вялікія гарады або згубленыя ў глухамані вёсачкі — іх значэнне ў чалавечай свядомасці вызначае не іх велічыня, а падзеі, месцам якіх яны сталі.

Адну са старонак упісаў у гісторыю апошняй сусветнай вайны невядомы савецкі салдат, ваеннапалонны, танкіст, які выйшаў на маральны паядынак з гітлераўскім генералам Гудэрыянам. Гісторыя гэта, расказаная былым нямецкім салдатам-відавочцам, абляцела ўвесь свет і паспела ўжо легчы ў аснову кінафільма і п'есы. А палігон, дзе фашысты выпрабоўвалі новыя снарады і дзе мішэнню стаў танк «Т-34», які па загаду Гудэрыяна вёў той самы савецкі ваеннапалонны з Бухенвальда, палігон, з якога пайшоў у апошні гераічны рэйс гэты танк, з'явіўся адным са скрыжаванняў гісторыі. Чалавечыя лёсы сутыкнуліся тут у такім красамоўным паядынку, што сталі прытчай, легендай XX стагоддзя. Гэта адбылося ў гарадку Іёнасталь.

Але мала хто ведае, што гэты кавалачак зямлі быў сведкам далейшых трагічных падзей. Гэтыя падзеі, звязаныя з будаўніцтвам апошняй стаўкі Гітлера, доўгі час заставаліся ў тайне.

Праз некалькі месяцаў пасля паядынку, пра які мы толькі што расказалі, гітлераўскі генерал Гэкель, асабісты сябар Гудэрыяна, сабраў сваіх афіцэраў і паведаміў, што па загаду зверху артылерыйскі палігон павінен быць пакінуты — тут будуць размешчаны часці СС. У гэты час у фашысцкіх дакументах паяўляецца назва сакрэтнага аб'екта «Ольга».

Эсэсаўскія афіцэры, якія прыехалі сюды, перш за ўсё пайшлі да бургамістра Арнштата, у чыіх ваколіцах ляжаў Іёнасталь, і запатрабавалі ў яго геалагічную карту мясцовасці.

Гэта было ў лютым 1943 года, адразу пасля Сталінградскай бітвы. Іменна тады кіраўнікі нацыянал-сацыялістычнай партыі пачалі ўсур'ёз задумвацца аб магчымасці паражэння фашысцкай Германіі і яго выніках. На страсбургскай тайнай канферэнцыі кіраўнікоў нацысцкай партыі быў выпрацаваны сакрэтны план, закадыраваны чатырма літарамі ПСРР — падрыў, сабатаж, расчыстка, разбурэнне.

Восенню 1944 года ў гарадках і вёсачках вакол Арнштата — у Іёнасталі, Ордруфе і іншых — эсэсаўцы развілі шалёную дзейнасць. Адсюль сцягваліся будаўнічыя батальёны. Многія фірмы, якія працавалі для іншых мэт, былі цалкам пераключаны на забеспячэнне новай будоўлі. У канцлагеры Бухенвальд тэрмінова збіралі атрады зняволеных — іх накіроўвалі туды ж. Тады ў лагеры ўпершыню пачулі назву «SIII». Гэта было сакрэтнае абазначэнне аб'екта ў Іёнасталі — будаўніцтва вялікага падземнага бункера, апошняй стаўкі Гітлера.

Дастаўка матэрыялаў, накіраванне людзей і само будаўніцтва вяліся ў глыбокай тайне. Знешне гэты аб'ект нічым не нагадваў буйны цэнтр фашысцкага вермахта. Сюды не везлі будаўнічых механізмаў, каб не выдаць задум і характару будоўлі. Уся работа вялася ўручную, сіламі вязняў. Тыя, хто тут пабываў, падлягалі знішчэнню.

Акрамя асабістых апартаментаў Гітлера і яго бліжэйшага акружэння, тут прадугледжвалася будаўніцтва радыёстанцыі з выхадам у міжнародную сетку, падземных заводаў для вырабу важных стратэгічных матэрыялаў, стартавых пляцовак для снарадаў «фау».

Міжволі прыходзіць у галаву думка: калі б не дагнала Савецкая Армія фашысцкую зграю ў Берліне — якім злачынным мэтам мог яшчэ паслужыць «SIII»?

Арганізацыю радыёцэнтра, апошняй радыёстанцыі «вялікай Германіі», узначальваў фашысцкі радыёкаментатар Ганс Фрыцшэ. Да гэтага ён быў цэнзарам 2.300 нацысцкіх газет. У «SIII» Фрыцшэ завёў нават свой персанальны канцлагер, у якім бывала да 100 чалавек.

Неўзабаве следам за транспартамі з вязнямі Бухенвальда ў Іёнасталь пачалі накіроўвацца транспарты з Іёнасталя ў газавыя канцлагеры Берген-Бельзен — сюды вывозілі смяротнікаў: на падземных работах у «SIII» людзі згаралі на працягу некалькіх тыдняў, а часам і дзён. Да таго ж усе, хто меў дачыненне да гэтага аб'екта, падлягалі знішчэнню. Асабліва строга гэта правіла прымянялася да савецкіх палонных. У студзені 1945 года з Іёнасталя ў Бухенвальд вярнуліся 1.400 зняволеных — 1.400 жывых мерцвякоў. Больш чым 200 з іх памёрлі на вакзале ў Бухенвальдзе. Нават у лагеры смерці гэта зрабіла страшэннае ўражанне, і таму наступныя транспарты з «SIII» ужо ішлі прама ў Берген-Бельзен.

Вось што расказвае адзін з былых зняволеных. «У студзені 1945 года нас адправілі ў Ордруф на аб'ект «SIII». Нас было 500 чалавек, пераважна рускіх і немцаў. Штодзённа памірала да 10 чалавек. Кожны дзень наглядчыкі вывозілі яшчэ па 15—20 чалавек — мы іх больш не бачылі. Мы займаліся пракладкай чыгункі і горнымі работамі».

У Бухенвальдзе ўжо даўно існавала падпольная арганізацыя Супраціўлення, настолькі моцная, што ў апошнія тыдні эсэсаўцы адважваліся праходзіць у размяшчэнне лагера, толькі трымаючы напагатове зброю. Але ў «SIII» пакуль усё заставалася па-ранейшаму. Тут не магло арганізавацца якое-небудзь ядро Супраціўлення, бо вельмі хутка адбываўся працэс знішчэння людзей. Транспартаваць усіх паміраючых практычна ўжо не было куды, таму тут жа, за калючым дротам, дзень і ноч гарэлі кастры.

Дацэнт Людвіг Флек успамінае, што з кожнай партыі зняволеных у «SIII» памірала больш чым палавіна.

Цывільнае насельніцтва Ордруфа, якое варожа ставілася да нацысцкай прапаганды, падтрымлівала зняволеных як магло. Простая жанчына Тоні Бетнер, жыхарка Кравінкеля (непадалёк ад Ордруфа), якую прымусілі гатаваць страву для тэхнічнага персаналу, занятага на будаўніцтве гітлераўскай стаўкі, рызыкуючы жыццём, падкармлівала зняволеных — рускіх, украінцаў, палякаў. Іншыя жыхары спрабавалі хаваць у сябе збітых да страты прытомнасці, кінутых на дарозе зняволеных. Пра гэта расказваюць Гуга Шміт, Пауль Кунклер, Гертруда Валендорф і іншыя.

Адзін з 900 вольнанаёмных, майстар-будаўнік Грэберт, успамінае: «Эсэсаўцы вельмі спяшаліся і ўсё падганялі будаўнічых рабочых. Усе наземныя памяшканні ператварыліся ў казармы».

Эдмунд Мелер, манцёр: «Штольні абліцоўвалі бетонам. Праз кожныя 30 метраў ад асноўнай штольні адыходзілі бакавыя. Яны абсталёўваліся, як пакоі, — тут былі чытальныя залы, сталовыя, ванныя, пакоі для гульняў, пакоі адпачынку. Сцены абшывалі дошкамі і белым пластыкам. Насцілалі дабротную падлогу. Кожны пакой асвятляўся неонавым свяцільнікам. Перад самай капітуляцыяй туды прывезлі водаправодныя трубы ўсіх размераў, цэлы грузавік кранаў для халоднай і гарачай вады, умывальнікі, горы ізаляцыйнай стужкі, выключальнікі, лямпы «бра».

Вакол лагера была ўстаноўлена металічная агарожа, па якой праходзіў ток высокага напружання. Каб выпрабаваць яго, на агарожу кінулі некалькі зняволеных.

Ужо была выразна чутна артылерыйская кананада, але будаўніцтва працягвалася. Такая была змрочная ўпартасць забойцаў — зняволеныя гінулі тут і ў апошнія дні перад уцёкамі эсэсаўцаў. У дні, калі кожнаму фашысцкаму салдату было ясна, што Германія вайну прайграла, Гітлер усё яшчэ спадзяваўся ўтрымаць уладу і арганізаваць супраціўленне Чырвонай Арміі. Стаўка «SIII» была апошняй стаўкай у гэтай безразважнай гульні.

Ёсць меркаванні, што гітлераўская верхавінка збіралася, акрамя таго, адседзецца там, каб потым, калі прыйдзе час, узяцца зноў за сваё. Тут было скрупулёзна падрыхтавана да іх працяглага знаходжання — пабудаван хлебазавод, фабрыка вэнджаных каўбас. Трагічнае тут перамяшалася са смешным: няўмольна набліжаліся апошнія дні рэйха — а ў Арнштаце ствараўся склад харчовых прадуктаў на 1 мільён марак. Сюды зганялі вагоны, набітыя рэчамі і золатам. Акрамя таго, вакол «SIII» было створана моцнае магнітнае поле, якое спыняла не толькі легкавыя машыны, але і танкі.

Гітлераўцы вельмі заўзята ахоўвалі сваю апошнюю стаўку. У навакольных гарадах і вёсках было разбурана каля 70 працэнтаў будоўляў. Ужо ўцякаючы, эсэсаўцы збіраліся ўзарваць аб'ект, але гэта ім не ўдалося.

Апошняя стаўка фашызму была біта. Дакументы аб ёй захоўваліся ў тайне, частка іх была знішчана, зняволеныя, сагнаныя на будоўлю, амаль усе загінулі. Таму пасля заканчэння вайны аб стаўцы мала было вядома. Цяпер дзякуючы пошукам гісторыкаў і журналістаў адкрываецца яшчэ адна старонка ганебнай гісторыі фашызму.

Збор матэрыялаў аб «SIII» працягваецца.

**Н. Лемяшчук,**
Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі ЦК КП Украіны.
**А. Ізарава**

---




Бакавы адростак тунеля. Пячора ў пячоры. Сярэдзіну памяшкання займае доўгі стол, абіты цынкам. У куце дзве шафы са шклянымі бакамі. У іх хірургічныя інструменты і медыкаменты. У адной сцяне вялікі пралом. За ім відаць кучу скал, якія спускаюцца да латуны. Тут і прытаіўся Карцаў. У яго на руцэ круглы вадалазны гадзіннік. Ён узяў яго са стэлажа на пляцоўцы.

Ён чакае. Чвэрць гадзіны назад убачыў Абста. Той выйшаў з пячоры, не пагасіўшы святла. Значыць, вернецца.

Карцаў апынуўся тут пасля няўдачнай спробы прасачыцца ў тунель. Двойчы набліжаўся ён да выйсця тунеля і адступаў: недзе ў глыбіні яго гарэла святло, адтуль даносіліся галасы, стракат пішучай машынкі. Карцаў патрабаваў ежы, зброі. Мабыць, усё гэта магло быць толькі ў тунелю. А тунель быў недаступны. Тады ўвага яго сканцэнтравалася на агеньчыку, які гарэў недзе далёка ў сцяне грота. Карцаў спусціўся ў ваду і паплыў на святло.

Так ён апынуўся на скалах, каля пралому ў сцяне пячоры.

Ён быў падрыхтаваны да таго, што можа сустрэнецца са сваім знаёмым. І ўсё ж, калі Абст з'явіўся ў пячоры, у Карцава перахапіла дыханне.

Абст увайшоў, і амаль тут жа ў дзвярах узнікла фігура рыжабародага здаравякі.

— Шэф, — сказаў ён, — Рышэр зноў...

— Што? — Абст павярнуўся да яго. — Зноў істэрыка?

— Плача, шэф.

— Пакліч яе, Глюк.

— Лепш вы самі, шэф. Дзеўка наравістая. А ў мяне на такіх чэшуцца кулакі. Баюся, не сцярплю, шэф!...

Абст выйшаў. Глюк рушыў следам.

Усё гэта здарылася чвэрць гадзіны назад.

І вось зноў крокі ў калідоры.

Абст і Рышэр уваходзяць у пячору.

Жанчына ідзе, прыціскаючы хустку да вачэй.

— Можаце сесці, — суха гаворыць Абст.

Рышэр сядае на табурэт. Яна плача.

Так праходзіць некалькі мінут. Памалу жанчына супакойваецца.

— А цяпер гаварыце. — Абст закідвае нагу за нагу. — Вы нешта хацелі сказаць мне?

— Лодка... адышла, — шэпча Рышэр.

— Так, адышла. — Абст аблізвае губы. — З'явілася небяспека, што яе могуць выявіць. Таму, закончыўшы выгрузку, яна адплыла.

— А як жа я? — крычыць Рышэр.

— Вы абяцалі!

— Яшчэ крыху — і яе закідалі б глыбіннымі бомбамі.

— Я вас прасіла.

— Лодка вернецца. Вы доўга чакалі. пацярпіце яшчэ крыху.

— Прасіла, — цвярдзіла Рышэр, — прасіла яшчэ ўчора! Вы абяцалі пераправіць мяне на лодку загадзя.

— Я не мог, Марта.

— Не маглі! — Рышэр дастае з кішэні лісток. — Вось пісьмо. Бомба ўпала на дом, маці загінула ў руінах. Сястра пры смерці!

— Я не мог, — паўтарае Абст. — Нават каб была лодка і цяпер, усё роўна не мог бы. Абысціся без вас немагчыма. Нам даручылі важную справу. Вы ведаеце, мы толькі пачалі. Вытрымаўшы, вы пакрыеце сябе славай. Ну, вытрыце слёзы. Вы — нямецкая жанчына. Калі мы пераможам і вернемся, кожны будзе лічыць гонарам пацалаваць вам руку. Трэба чакаць замены. Зразумейце, без лекара нам будзе цяжка.

— Ды калі ж вы ўрэшце адправіце мяне? — зноў пытае Рышэр.

— Так хутка, як толькі змагу. Набярыцеся цярпення. Справа нацыі патрабуе. Яшчэ паўгода, год... Пачакайце!

Абст кідаецца да Рышэр, якая хутка выцягнула нешта схаванае на грудзях і паднесла да горла.

Яму ўдаецца штурхнуць руку Рышэр. На падлогу падае невялікая бутэлечка. Услед за ёю асядае на падагнуўшыхся нагах жанчына. Абст хапае яе, укладвае на стале. Потым ён узяў асцярожна бутэлечку, разгледзеў яе, панюхаў.

Уваходзіць Глюк.

— Яд? — гаворыць ён.

Абст ківае.

— Паспела?

— Не...

— Што ж тады з ёю?

— Яшчэ не ведаю. — Абст перадае яму бутэлечку. — Схавай добра. Вяртайся з насілкамі.

Глюк выходзіць. Схіліўшыся над сталом, Абст сочыць за пульсам Рышэр.

Тая расплюшчвае вочы і, упершыся далонямі ў стол, намагаецца ўстаць. У яе вачах страх.

— Што з вамі?

— Ногі... — шэпча Рышэр. — Я не чую ног!

Ізноў траціць прытомнасць.

Вяртаецца Глюк. Ён прыйшоў з кранаўшчыком.

— Ну дык што ж з ёй, шэф? — пытае Глюк.

— Адняліся ногі.

— Чорт яе вазьмі! Вечныя клопаты з бабай. Як жа мы будзем адны?

— Не ведаю.

— Без лекара прападзем, шэф. Ці кінеце ўсё і будзеце цягнуць за яе?

Абст выймае пісталет з кабуры на поясе Рышэр.

— Занясіце яе на ложак і вяртайцеся.

Глюк і кранаўшчык кладуць жанчыну на насілкі і выходзяць.

(Працяг будзе)

